


№ 34 (62) 20—26 кастрычніка 1993 г. Кошт 10 руб.

*Калонка палітычнага аглядальніка*

## Выратаванне ў «магічным чатырохкутніку»

Узгадай, паважаны чытач, як расейскі банк пачаў вымаць з грашовага абарачэньня старыя купюры. Гэтым (пры ўсёй бесцырымоннасьці) істотна зьмяншалася колькасьць грашовай масы і, адпаведна, павялічвалася вага расейскага рубля. Нацыянальны банк Беларусі адразу ж падрыхтаваў праект прапановы, згодна якой беларускі разьліковы білет абвяшчаўся адзіным плацежаздатным сродкам на тэрыторыі рэспублікі. Такі рацыянальны крок павялічыў бы попыт на «зайчык» і забясьпечыў яму ўнутраную канверсаванасьць (беспраблемны абмен у межах Беларусі на расейскі рубель, марку, даляр і г. д.). Але ні Савет Міністраў, ні Вярхоўны Савет гэтую прапанову не зацьвердзілі. У краіне засталіся два асноўныя сродкі аплаты—расейскі рубель і разьліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі. Расейскіх наяўных грошай катастрафічна не хапае (адразу пасьля вынятку старых купюраў). Дэфіцыт расейскага рубля павышае попыт на яго. Сапраўды, калі інтарэс прадпрымальніка на Усходзе, калі ён набывае ў Маскве свой улюбёны «Сьнікерс», дык навошта яму беларуская валюта? Даеш расейскі рубель і ўсё!

У гэтых умовах вартасьць «зайчыка» зьменшылася. Зараз за адзін расейскі рубель даюць амаль два беларускіх рублі. Сярэдняя месячная зарплата на Беларусі складае каля 40% ад расейскай, у Латвіі ж—150%, Летуве—200%. Але там даўно ходзяць уласныя грошы. Такім чынам, апошні скачок гіперінфляцыі паменшыў кашалі беларускіх грамадзянаў роўна ўдвая. Наўрад ці фінансісты з урадоўцамі не разумелі згубнасьці сваёй бязьдзейнасьці ў дачыненьні да беларускай грашова-фінансавай сістэмы. Прычыны бязьдзейнасьці прыхаваныя, але пра іх можна здагадвацца:

1. Кіруючыя колы Беларусі не зацікаўленыя ва ўстанаўленьні рэспублікай уласнай грашовай сістэмы.

2. Урад не йдзе на гэты крок, бо баіцца папрокаў Расеі.

3. Урадоўцы спадзяюцца на аб'яднаньне грашовых сістэмаў Беларусі і Расеі.

4. Каманда Кебіча і беларуская «чырвоныя» мараць пра ўваходжаньне Беларусі ў Расейскую Федэрацыю.

На сёньня ажыцьцяўленьне спадзяванкі № 4 досыць праблематычнае, бо перамог Ельцын.

Несамавітасьць другой відавочная пасьля аб'яўленьня расейскага рубля адзіным плацежаздольным сродкам у РФ. Падобна на тое, што наш магутны ўсходні сусед у чарговы раз падштурхоўвае беларускую грашовую адзінку да суверэнізацыі. І тут становіцца зразумелым, што ўрад Кебіча сьвядома, як падкрэсьліваю, сьвядома дыскрэдытуе нацыянальную грашовую адзінку, бо не выконвае элементарныя законы рынкавай эканомікі. Залатым правілам сацыяльнай эканомікі, альбо як яго называюць нямецкія эканамісты, "магічным чатырохкутнікам" ёсьць:

—забесьпячэньне высокага ўзроўню занятасьці насельніцтва,
—стабільная грашовая адзінка,
—баланс экспарту і імпарту,
—спрыяньне гаспадарчаму росту.

Усё гэта павінна забясьпечыць дзяржава.

**М. ПАУЛАЎ.**

## «Какая-никакая власть» рашэнні свае мяняе

Як стала вядома, Віцебскі гарвыканкам 30 верасня рашэннем № 441 адмяніў сваю ранейшую забарону сьвяткавання віцяблянамі Дня беларускае вайсковае славы 8 верасня. Такім чынам, ёсць надзея, што ў наступным, юбілейным для памятнай бітвы пад Оршай, годзе ніякіх перашкодаў сьвяту не будзе.

**М.К.**



Фота **А. ЛАКОТКІ.**

## «Вясна-94» ужо прыйшла

**На мінулым пасяджэнні гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» неаднаразова гучала слова «вясна».**

Так, увесну павінны быць выбары. Але каб запэўніванні парламента не сталіся ўсё ж толькі абяцанкамі-цацанкамі, шэраг палітычных, прафесійных, рэлігійных ды творчых арганізацыяў утварылі аб'яднанне «Вясна-94» На думку ўдзельнікаў новага палітычнага саюза (а ў Віцебску яны прадстаўлены АДПБ і БСДГ), аб'яднанне грунтуецца на трох «кітах»: будаўніцтве нейтральнай бяз'ядзернай незалежнай Беларускай дзяржавы, прыярытэце правоў асобы і рэфармаванні ў сацыяльную рыначную нашай кананднай эканомікі.

Апроч патрабавання датэрміновых выбараў, «Вясна-94» дамагаецца ўтварэння кааліцыйнага ўрада народнага даверу.

Як бачым, нічога новага ў задачах аб'яднання няма. Думаецца, пасля мажлівай перамогі на веснавых выбарах новы блок хутка распадзецца: такі ўжо лёс дэмакратычных саюзаў пасля выбарчых кампаній у былых краінах камунізму.

**Н. КІЛДЗІНГ.**

## У ТЫДНЁВІКУ:

✦ Не хапіла часу

✦ Гвалтуюць нават дзяўчынкі

✦ Бясплатныя аб'явы

*Весткі з раёнаў*

### «Добры дзень, Дзвіна!»

Менавіта так будзе называцца новы фільм беларускіх кінематаграфістаў, здымкі якога адбываліся ў Полацку. У працы над лентай удзельнічаў народны паэт Беларусі Р. Барадулін.

### Калісьці будзе і тут

У Глыбокім пацюху-патроху рэалізоўваецца даўняя ідэя стварэння гісторыка-этнаграфічнага музея. Вядзецца актыўны пошук матэрыялаў у музейную экспазіцыю.

### Во дзе дэмакратыя!

Ажно 14 працэнтаў ад агульнага складу верхнядзвінскіх сяброў ПКБ увайшло ў тутэйшы райкам. «Шматлікія» ветэранскія шэрагі камуністаў раёна ўключаюць паўсотню асобаў, РК—адпаведна 7 чалавек.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

## Старчак, перпендикуляр ці prostopadła

Напрыканцы верасня ў Берасцейскім педагагічным інстытуце адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Нацыянальная адукацыя і пытанні беларускамоўнага выкладання». У выдадзены з гэтае нагоды зборнік матэрыялаў увайшлі тэзісы спавешчанняў 142 навукоўцаў і выкладчыкаў айчынных ВНУ, а таксама Т. Вілоха, прафесара універсітэта імя М. Складоўскай-Кюры з Люблiна—«Умовы падрыхтоўкі настаўнікаў для нацыянальных школ у Польшчы», В. Бужыньскага, выкладчыка інстытута фізічнага выхавання з Бяла-Падляскі—«Школьніцтва. Нацыянальная свядомасць. Мова», С. Някрасава, прафесара, і Т. Гранько, дацэнта Уральскага тэхнічнага універсітэта з Екацярынбурга—«Актуальныя праблемы выкладання гуманітарных дысцыплін на рускай мове ў тэхнічных ВНУ Расіі».

Невыпадкова такая канферэнцыя ўжо другі раз праводзіцца ў Берасці. Поспех Адраджэння шмат у чым залежыць ад мясцовага кіраўніцтва; пазіцыя намесніка старшыні Берасцейскага гарвыканкама У. Русакевіча і рэктара БДПІ В. Сцепановіча ў гэтым пытанні адназначная: закон аб мовах павінен выконвацца. І гэтае выкананне заўважна ў горадзе ўвогуле і ў інстытуце, у прыватнасці.

Народны дэпутат ВС Беларусі Я. Цумараў у філасофскім адступленні разважаў аб ролі асобы ў грамадстве ў цяперашні час. Ён выказаў думку, што ў сітуацыі анархіі, калі кожны закон можна выконваць, а можна і не выконваць, ад кожнага з нас залежыць значна больш, чым раней. Гэтая думка яшчэ патрабуе асэнсавання, а спадар Цумараў між тым паведаміў прысутным, што колькасць беларускіх школ набліжаецца да адпаведнай нацыянальнаму складу насельніцтва. Пры Менскім гарвыканкаме ўведзена штатная адзінка дзяржаўнага моўнага інспектара. Дарэчы, у Францыі адпаведная інспекцыя існуе пры прэм'ер-міністры, а з 12 сакавіка 1984 года—і пры прэзідэнце краіны.

Праца канферэнцыі вялася ў трох секцыях: «Нацыянальная школа як сацыякультурны феномен: гісторыя і шляхі даследавання», «Актуальныя праблемы выкладання гуманітарных дысцыплін на дзяржаўнай мове», «Выкладанне прыродазнаўчых і матэматычных дысцыплін па-беларуску: зрухі і праблемы».

Характар спавешчанняў удзельнікаў змяніўся ў параўнанні з майскай канферэнцыяй такога накірунку ў Менску (РТІ): скаргі на незацікаўленасць студэнтаў, недахоп падручнікаў, нераспрацаванасць навуковай тэрміналогіі саступілі месца карпатлівай працы. Несумненную цікавасць выклікалі спавешчанні В. Пліско «Настаўнік як суб'ект беларусізацыі: у люстэрку сацыялогіі», камандзіра дывізіёна С. Судніка «Беларуская мова—санскрыт славянства», К. Белага «Да пытання аб беларускай спартыўнай тэрміналогіі».

Сярод спецыялістаў негуманітарнага профілю далей за ўсіх здаецца, пайшлі матэматыкі. Менавіта паміж імі разгараецца тэрміналагічныя дыскусіі: «пункт» або «кропка»; «стасунак», «суадносіны» або нават «адносіна»; «старчак» або «перпендыкуляр» і да т. п. Выкладчыкамі БДПІ выпушчаны падручнікі па матэматыцы, тэрміналагічны слоўнік. Усе восем выкладчыкаў кафедры методыкі матэматыкі Магілёўскага педагагічнага інстытута і васемнаццаць з дваццаці выкладчыкаў кафедры матэматыкі Менскага педагагічнага інстытута вядуць свае заняткі па-беларуску.

Калі хто жадае азнаёміцца з матэрыяламі канферэнцыі па беларускамоўнаму выкладанню, просьба тэлефанаваць аўтару 5-33-52.

**Уладзімір СЛАБІН.**

**(Зварот удзельнікаў канферэнцыі чытайце на 3-й стар.).**

# ЗАЯВА
## Цэнтральнай Рады БСДГ аб эканамічным становішчы ў Рэспубліцы Беларусь

Эканамічны крызіс у краіне ўступіў у сваю разбуральную стадыю. Апошнія гады і месяцы пракамуністычны ўрад шукаў выйсце з паліўна-энергетычнага крызісу шляхам здачы адной за другой пазіцый незалежнасці і набірання шматмільярдных крэдытаў у Расіі, якія будуць сплочваць не сучасныя правіцелі, а народ і яго нашчадкі. Аднак гэта не вырашыла паліўную праблему, а толькі ўскладніла яе. З-за дэфіцыту паліва спыняюцца прадпрыемствы, не ўбіраецца ўраджай.

Катастрафічнае становішча крэдытна-фінансавай сістэмы. Вага нацыянальных разліковых білетаў зводзіцца да нуля. Уступіўшы на рыначны шлях развіцця, Расія пераводзіць цэны на сыравіну на сусветны ўзровень, выкарыстоўваючы пры гэтым завышаны, спекулятыўны курс долара. Дзякуючы гэтаму, гандлёвы баланс Расіі з краінамі СНД за першую палову 1993 года склаў аж некалькі млрд. долараў у яе карысць.

Нягледзячы на глыбокі крызіс, урад адмаўляецца ад увядзення нацыянальнай валюты. Ігнаруецца вопыт краін Прыбалтыкі, дзе ўведзены нацыянальныя валюты і стабілізуецца эканоміка. Маўчаць чыноўнікі ўрада і аб карысным вопыце заходняга суседа Польшчы, дзеназіраецца ўздым эканомікі, а рынак напоўнены таварамі. Замест правядзення самастойнай грашовай палітыкі кіраўніцтвы ўрада і Нацыянальнага банка знішчаюць суверэнітэт нашай дзяржавы шляхам аб'яднання грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь з грашовай сістэмай Расійскай Федэрацыі, і гэта нішто іншае, як спроба пазбегнуць адказнасці за разбурэнне нацыянальнай эканомікі.

Некампетэнтны ўрад бачыць выйсце з крызісу ў заключэнні эканамічнага саюзу з Расіяй, а пракамуністычная фракцыя Вярхоўнага Савета, якая на здзек народу называе сябе імем «Беларусь», разам са сваімі хаўруснікамі выступіла з «ініцыятывай» ліквідацыі незалежнасці нашай краіны і ўтварэння канфедэрацыі з Расіяй.

З мэтай увядзення ў зман працоўных робяцца жахліва некампетэнтныя заявы аб тым, што суверэнітэт вельмі дарагі для нашага народа, хоць вядома, што ён не можа быць больш дарагім, чым уваходжанне ў былы Саюз, калі Беларусь плаціла цэнтру нечуваную даніну—аж 40% нацыянальнага даходу. Або чаго вартая хлуслівая заява прэм'ера ўрада аб тым, што мы эканамічна слабая для незалежнасці дзяржава, хоць па дадзеных за 1990 год эканамічны ўзровень Рэспублікі Беларусь па вытворчасці валавога ўнутранага прадукта на 1 чалавека амаль на 50% перавышаў узровень Польшчы, быў вышэйшы за ўзровень Літвы і Латвіі, роўны ўзроўню тагачасных Венгрыі, Чэха-Славакіі, Грэцыі і нават Паўднёвай Карэі.

Цэнтральная Рада БСДГ заяўляе, што яна выступае за ўзаемавыгаднае эканамічнае супрацоўніцтва з усімі краінамі блізкага і далёкага замежжа і супраць любых эканамічных саюзаў, якія маюць палітычную афарбоўку і паставяць Рэспубліку Беларусь у вечную каланіяльную залежнасць ад усходняга суседа.

Цэнтральная Рада БСДГ пратэстуе супраць адмовы ад увядзення нацыянальнай валюты. Гэты крок урада ёсць здрада нацыянальным інтарэсам, вынікам якой можа быць толькі шматразовае павышэнне цэнаў ужо ў бліжэйшыя тыдні і нечуванае збядненне працоўных краіны.

Заклікі праімперскіх сілаў аб ліквідацыі незалежнасці Рэспублікі Беларусь Цэнтральная Рада БСДГ расцэньвае як здраду Радзіме і імкненне зліквідаваць волю беларускага народа, за якую змагаліся не адно стагоддзе яго лепшыя сыны, як знявагу памяці мільёнаў ахвяраў, загінуўшых у гэтай барацьбе.

Цэнтральная Рада БСДГ заяўляе, што ўрад Рэспублікі Беларусь паказаў сваю поўную некампетэнтнасць і няздольнасць праводзіць самастойную эканамічную палітыку, ажыццяўляць рэформы па пераадоленню крызісу і патрабуе яго неадкладнай адстаўкі. Толькі кааліцыйны ўрад можа выправіць крытычнае становішча і падрыхтаваць умовы для правядзення дэмакратычных выбараў.

БСДГ і яе Цэнтральная Рада бачаць выйсце ў шырокім разгортванні прыватызацыі і барацьбе з манапалізмам і карупцыяй, у актыўнай падтрымцы экспарту тавараў з мэтаю атрымання валюты для аплаты энерганосьбітаў, у рэальнай структурнай перабудове эканомікі, валютна-крэдытнай і аграрнай рэформах. Увядзенне нацыянальнай валюты, карэннае ўдасканаленне падаткавай палітыкі, правядзенне актыўнай інвестыцыйнай палітыкі павінна стаць зместам эканамічнай рэформы.

**Цэнтральная Рада БСДГ.**

# ТРЫВОЖНЫЯ ФАКТЫ

На днях у Віцебскім гарвыканкаме адбылася сумесная нарада педработнікаў, прадстаўнікоў праваахоўных органаў і сістэмы аховы здароўя. У выступленнях удзельнікаў называліся факты, якія выклікаюць трывогу і прымушаюць задумацца аб будучым нашага грамадства. Вось толькі некаторыя з іх. За 9 месяцаў бягучага года падлеткамі ў нашай вобласці здзейснена 923 злачынствы, сярод якіх—5 наўмысных забойстваў. У гэты ж час у нецвярозым стане затрыманы 503 падлеткі. Асабліва ў параўнанні з мінулым годам узрасла колькасць крадзяжоў, учыненых школьнікамі: за 9 месяцаў 1992 года яны зрабілі ў Віцебску 107 крадзяжоў, за той жа перыяд сёлета—171. Адзначаліся выпадкі з'яўлення дзяцей за заняткі ў п'яным выглядзе, хуліганскіх учынкаў, зробленых імі ў дачыненні да настаўнікаў, Прасцей кажучы—збівання педагогаў. У сувязі з гэтым прадстаўнік упраўлення ўнутраных спраў заўважыў, што, калі такая тэндэнцыя захаваецца, то ў хуткім часе за кожным класам трэба будзе замацоўваць міліцыянера, бо настаўнікі не змогуць працаваць. Ён прывёў і такі факт. Нядаўна 14-гадовая вучаніца СШ № 12 абласнога цэнтра за ўдзел у групавым згвалтаванні прыгаворана да 6 гадоў пазбаўлення волі.

Урач скурвендыспансера ў сваім выступленні адзначыла моцны рост у апошні час венерычных захворванняў школьнікаў. Прычым гэтыя хваробы «памаладзелі». Калі некалькі гадоў назад да ўрачоў рэдка траплялі 12—13-цігадовыя дзяўчынкі і 14—15-цігадовыя хлопцы, то цяпер падобнае—звычная справа. У школах слаба вядзецца прафілактычная работа ў гэтым накірунку. Па словах лекара, ветэраны-медыкі параўноўваюць цяперашні масавы (у сотні разоў!) рост вензахворванняў, а таксама каросты (такі хуткі ўздым нагадвае хіба што імклівы бег цэнаў) з тым становішчам, якое было ў часы вайны і першыя пасляваенныя гады.

Памочнік пракурора Віцебскай вобласці выступіў за больш жорсткія меры да так званых дрэнных сем'яў, бо значная частка правапарушэнняў учыняецца дзецьмі з такіх радзінаў. На ягоную думку, бацькоў, якія недастаткова займаюцца выхаваннем сваіх дзяцей, трэба рашуча пазбаўляць бацькоўскіх правоў.

Загадчыца Кастрычніцкага РАНА адзначыла, што 78 выпускнікоў сярэдніх школ раёна сёлета не змаглі ўладкавацца ні на працу, ні на вучобу. Прысутныя назвалі і іншыя лічбы, якія сведчаць, што пастаянна расце колькасць скасаваных шлюбаў, пашыраецца амаральнасць і бездухоўнасць у маладзёжным асяроддзі, нярэдкія выпадкі самагубства непаўналетніх. І ўсе гэтыя факты пераконваюць, што наша сістэма выхавання, наогул грамадства—у глыбокім крызісе. На жаль, нарада, па сутнасці, абмежавалася толькі канстатацыяй трывожных фактаў, не намеціла ніякіх канкрэтных шляхоў выхаду з цяжкага становішча.

**А. БУКАЧОЎ.**

*Ліст чытача*

# НЕ ХАПІЛА ЧАСУ

На мінулым тыдні на Беларускім тэлебачанні выступаў старшыня часовай камісіі па злоўжыванні службовым становішчам і карупцыі, народны дэпутат А. Лукашэнка.

Змест яго выступу можна падзяліць на тры часткі:

а) апраўданне асабістага ўдзелу ў ваяжах пэўнай часткі дэпутатаў ВС у Вярхоўны Савет Расійскай Федэрацыі з мэтай пошуку шляхоў скасавання дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь;

б) шальмаванне апазіцыі, старшыні ВС РБ ды ўхваленне «працалюбівага» Вярхоўнага Савета, якому ставяць палкі ў колы А. Трусаў, В. Голубеў ды В. Алампіеў. С. Шушкевіч так і імкнецца да нечарговых перавыбараў. (Незайздросная роля нашага спікера, хоць, здаецца, пракамуністычнай большасці няма чаго скардзіцца на яго: робяць, што хочуць, нягледзячы на процідзеянне апазіцыі ды памяркоўнасць (бяздзеянне, маўклівае патуранне) Шушкевіча);

в) асноўная частка, на якую не хапіла часу. Тут спадар Лукашэнка падышоў нарэшце да тэмы выступу, змест якога, на дзіва, супярэчыў уступу. Відаць, заблукаў у трох соснах. Аказваецца, большасць (папраўіўся—некаторыя) **дэпутатаў ВС** толькі і займаецца, што шлындае па калідорах Савета Міністраў ды выбівае ліцэнзіі на вываз тавараў за межы Беларусі. (Мусіць, таму нічога і няма ў крамах).

Аказваецца, не апазіцыя БНФ ды БСДГ, і не старшыня ВС, а вельмі высокія ўрадавыя асобы пагразлі ў хабарніцтве, злоўжываннях службовым становішчам. Бяздзеянне праваахоўных органаў звязана з той жа карупцыяй на самым высокім узроўні. Аказваецца, не народныя дэпутаты А. Трусаў ды В. Алампіеў (БСДГ), В. Голубеў (БНФ), а намеснік прэм'ера С. Брыль, былы партыйны дзеяч Віцебскага абкама, а зараз камерсант Ц. Місуна ды іншыя дзяржаўныя чыноўнікі павінны несці персанальную адказнасць за павальны абвал эканомікі, грабёж дзяржаўнай маёмасці, карупцыю, давядзенне беларускага народу да бядотнага стану.

Калі б спадар Лукашэнка не шукаў цёмнай ноччу чорную кошку, а займаўся справай, магчыма, яму б хапіла часу больш дакладна назваць камерцыйныя і дзяржаўныя структуры, пасады і прозвішчы чыноўнікаў, адказных за развал эканомікі.

Частка чацвёртая, заключная.

Мне крыкуны часта
мільгаюць у вачах.
Да славы, прагныя, ды
вузкія ў плячах.
(К. Крапіва.
«Саманадзейны конь»).

Дакладней і не скажаш.

**В. ІГНАЦЕНКА,**
**сябра БСДГ.**

## Свет вакол нас

● Паступовага вяртання «ўсходніх нямецкіх правінцыяў» патрабуе правая Вызваленчая рабочая партыя (FAP), якая дзейнічае ў ФРГ.

● Тытул «Найпрыгажэйшая студэнтка свету» атрымала падчас выставы «Экспа-93» у Паўднёвай Карэі «Міс Палонія-92» Эва Вахові́ч.

● Даўгі Расіі заходнім дзяржавам складаюць каля 80 млрд. долараў. У спісе найбольшых даўжнікоў РФ займае трэцяе мейсца пасля Бразіліі і Мексікі.

● Каталікі Аўстрыі перадалі летась амаль 40 мільёнаў шылінгаў для Цэркваў Усходняе Еўропы, у прыватнасці, на Украіне, у Румыніі й Летуве.

● Дапамога ЗША для замежжа (агулам 12 з паловай мільярдаў долараў) уключае выдзяленне 3 млрд. для Ізраіля, 2,1—Егіпту і 2,5—для краінаў СНД.

**Паводле паведамленняў заходніх мас медыяў падрыхтаваў М. МАРУДАЎ.**





● *Нашы гандлююць. На «рускім базары» ў Польшчы і Полацкім рынку ў Віцебску.* ●

